**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№39(651)**
**27 верасня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**





Падобныя «скульптуры» з саломы цяпер часта можна сустрэць уздоўж аўтастрадаў па ўсёй Беларусі. І не важна, да якога свята гэта прымеркавана – Дажынак ці Дня пісьменства – галоўнае, што такія «скульптуры» робяць нашыя дарогі адметнымі на фоне літоўскіх і расійскіх.
На здымку: краявід каля Дунілавічаў на шашы Полацк-Вільня.
*Фота Ул. Скрабатуна.*

## У кастрычніку Мосар запрашае на Ружанцовую малітву каля капліцаў

### Будзем маліцца каля капліцаў у Мосары на Ружанцы. Запрашаем на Ружанцовую малітву каля капліцаў у Мосары.

«Ружанцовая малітва — гэта малітва чалавека за чалавека; гэта малітва людской салідарнасці, супольная малітва адкупленых, у якой адлюстраваны дух і інтэнцыя Той, якая займае першае месца сярод адкупленых — Марыі, Маці і Вобразу Касцёла; гэта малітва за ўсіх людзей свету, усіх гістарычных часоў, жывых і памерлых, якія пакліканыя ствараць разам з намі Цела Хрыста і станавіцца разам з Ім спадкаемцамі хвалы Айца», — пісаў Ян Павел II.

Кожную нядзелю кастрычніка ў гэтым годзе ў 11 гадзін каля Ружанцовых капліцаў у Мосары будзем разважаць аб Гісторыі



Збаўлення і маліцца ва ўсіх інтэнцыях праз заступніцтва Багародзіцы Марыі – нашай нябеснай Маці.

Жыхары парафіі і вернікі з наваколля асаблівым чынам ушаноўваюць Божую Маці з Вострай брамы, таму ружанцовая малітва ў кастрычніку будзе добрай духоўнай практыкай і натхненнем для перажыцця штогадовых “Дзён апекі Маці Божай”.

Шчыра запрашаем вернікаў з пабожнасцю далучыцца супольнай Ружанцовай малітвы ў Мосары.

Падрабязная інфармацыя на сайце:
**http://mosar.vickyblog.com**

***Ксёндз Аляксей Юркайць****, адміністратар парафіі Мосар.*
Вул. Цэнтральная (касцёл).
211807 в. Мосар п/а Мосар
Глыбоцкі раён, Віцебская вобласць. + 375-33-676-1000.
E-mail: Mosarterra@gmail.com. Skype:Alexius230



## Мясцовасці ЛУЧАЙ – 470 год (1542-2012)

*Бязвер'е і пыху, нуду і адчай*
*Малітваю шчыраю лечыць Лучай.*
*І дорыць ён кожнаму Божую ласку,*
*Як сілы дае жыватворчы ручай.*
*(з рэфрэна да гімна Лучаю).*

**Свята адбудзецца 30/09. Пачатак а 12:00.**
Пасля ўрычыстай святой Імшы адбудзецца святочная праграма з удзелам гурта «Верасень», Паліны Рэспубліка і беларускіх Выканаўцаў.
Як звычайна, будзе працаваць «Вёска майстроў».
**САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ!!!**
*Парафія св. Тадэвуша, Лучай.*



Докшыцкі раён

# Людзі на балоце

■ Станіслаў Раманчук

**Яшчэ некалькі гадоў назад сумнае відовішча ўяўляў стары торфабрыкетны завод "Віцебскі" ў пасёлку Круляўшчызна, што ў Докшыцкім раёне.**

Прадпрыемства дыхала на ладан, яму пагражала закрыццё і адсюль сталі выязджаць працаўнікі ў пошуках сродкаў на існаванне. Сітуацыя рэзка змянілася, калі яго гаспадаром стала аб'яднанне "Віцебскаблгаз". На пабудову новага сучаснага торфаперапрацоўчага завода з заходнім абсталяваннем накіравалі больш 16 мільярдаў рублёў. Газавікі ўсё пралічылі, толькі на распрацоўку новых сховішчаў торфу не пашкадавалі яшчэ 6 мільярдаў. У выніку ўкладзеныя сродкі пачынаюць прыносіць аддачу. У гэтым годзе за паўгода выраблі гатовай прадукцыі амаль у 3 разы болей, чым летась за 12 месяцаў. Толькі экспартныя пастаўкі тарфяных грунтоў у рознай расфасоўцы ў дзяржавы ЕС прынеслі сёлета амаль 1 мільён долараў выручкі. Дарэчы, на вытворчасці людзей занята жменька, бо асноўныя складаныя тэхналагічныя працэсы аўтаматызаваныя і праводзяцца з дапамогай камп'ютарных тэхналогій. Але пры гэтым колькасць працуючых тут падвоілася і перавысіла 100 чалавек. Для прыезджых спецыялістаў узвялі першы шматпавярховы дом з аўтаномнай сістэмай ацяплення і водазабеспячэння кожнай кватэры. У планах пабудова яшчэ адной такой шматпавярхоўкі. На новым заводзе наладжаны выпуск больш 50 найменняў прадукцыі, а чысты прыбытак ад рэалізацыі перавысіў 1,5 мільярда рублёў, прадпрыемства стала адным з самых перспектыўных у Бярэзінскім краі.




Пастаўскі раён

# У дэмаграфічнай яме

■ Кастусь Александровіч

**Неяк заўчасна апошнім часам пачалі гаварыць у нас аб быццам стабілізацыі эканамічнай і дэмаграфічнай сітуацыі, асабліва перад важнымі палітычнымі кампаніямі.**

Вось і ў Пастаўскім раёне, як адзначалася на апошняй сесіі раённага Савета дэпутатаў, крыху вырасла агульная працягласць жыцця насельніцтва – 72,5 гады. На патрэбы сістэмы аховы здароўя сёлета будзе патрачана амаль 44 мільярды рублёў, працуюць 92 урачы, няма праблем з забеспячэннем пацыентаў медыкаментамі і харчаваннем. Аднак медработнікі – не Богі і ім немагчыма змяніць сумнае развіццё жыцця. Як і іншыя рэгіёны краіны, Пастаўшчына таксама вымірае. Яшчэ ў пачатку новага стагоддзя ў раёне пражывала 48 тысяч 300 чалавек, а сёлета тут налічваецца ўжо меней 38 тысяч жыхароў. У першым паўгоддзі на Пастаўшчыне нарадзілася 177 хлопчыкаў і дзяўчынак, а памерла 368 чалавек. Толькі ў райцэнтры становішча больш-менш прымальнае, паколькі тут насельніцтва болей маладое. А вось у глыбінцы хутка практычна апусцеюць многія населеныя пункты і медыкі папярэджваюць, што праз год сельскіх жыхароў будзе меней 13 тысяч. Праводзімая прафілактычная работа дазволіла выявіць сёлета яшчэ 9 хворых з туберкулёзам, 15 - з цукровым дыябетам і нават 81 пацыент з рознымі анкалагічнымі захворваннямі. Як паказаў праведзены медыкамі маніторынг, да таго ж кожны трэці жыхар раёна мае празмерную вагу, а больш 2 тысяч чалавек – павышаны ўзровень цукру ў крыві.

Полацкі раён

# Недабор – рэальнасць часу

■ Чэслаў Якубовіч

**Як і шэраг іншых айчынных ВНУ краіны, сёлета і Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт сутыкнуўся з непрыемнай з'явай недахопу абітурыентаў.**

У выніку на 1-ы курс дзённага навучання залічылі толькі 1382 студэнты, што меней, чым было вызначана планам прыёму. На шэраг такіх спецыяльнасцей, як "замежныя мовы" , "фізіка" і іншыя, не набралася жадаючых вучыцца нават на бясплатныя бюджэтныя месцы і не было конкурсу. Аднак гэта не адбілася на характары ўрачыстай цырымоніі пасвячэння ў першакурснікі ПДУ. Па існуючай традыцыі яе адкрыў у прыгожай прафесарскай мантыі рэктар універсітэта, доктар тэхнічных навук Дзмітрый Лазоўскі. Вучоны павіншаваў юнакоў і дзяўчат з ажыццяўленнем іх мары і перадаў новым студэнтам сімвалічны ключ ведаў. Як заўсёды, весела і цікава прайшла забаўляльная частка святочнай імпрэзы. На сцэне прынеслі шмат станоўчых эмоцый лепшыя артысты студэнцкага клуба, танцавальныя групы і мясцовая каманда клуба КВЗ. У Полацкім дзяржуніверсітэце таксама штогод запрашаюць на ўрачыстасці знакамітыя беларускія эстрадныя калектывы і вядомых выканаўцаў. На гэты раз парадавала моладзь знакамітая група "Тяни-толкай". Дарэчы, сёлета ў 5 дзяржаўных ВНУ вобласці конкурс быў невысокі, 1,7 чалавека на бюджэтныя месцы, а на 8146 платных месц – 0,68 і здарыўся недабор студэнтаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 27.09.12 | | | | Пятніца 28.09.12 | | | | Субота 29.09.12 | | | | Нядзеля 30.09.12 | | | | Пнд.01.10.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +14 | +20 | +13 | +16 | +13 | +13 | +10 | +9 | +11 | +15 | +11 | +9 | +11 | +12 | +9 | +6 | +8 | +14 |
| Ціск | 746 | 744 | 743 | 741 | 742 | 745 | 745 | 747 | 749 | 750 | 750 | 749 | 747 | 744 | 743 | 747 | 749 | 751 | 751 |
| Вільготнасць | 94 | 90 | 63 | 73 | 87 | 85 | 80 | 93 | 94 | 94 | 70 | 93 | 96 | 95 | 86 | 89 | 90 | 89 | 51 |
| Вецер м/сек | 5 Пд | 6 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 5 З | 3 З | 2 З | 2 Пд-З | 3 З | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 3 Пд | 4 Пд-У | 2 У | 4 З | 4 З | 3 З | 4 Пд-З | 5 Пд-З |

# Лічба нумара

**15%** - на столькі, па дадзеных Белстата, вырас у Беларусі сёлета за 7 месяцаў агульны таваразабарот у параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года. Гэты паказчык дасягнуў нават 56,5 мільярдаў долараў, пры гэтым айчынны экспарт тавараў павялічыўся аж на 28,1 % і перавысіў 29 мільярдаў USD. А вось імпарт у нашу краіну павялічыўся ўсяго на 3,7 %, да сумы меншай – 27,25 мільярда долараў. Аднак, як гэта было і раней, чарговы беларускі "эканамічны цуд" аказаўся новай мыльнай бурбалкай і лопнуў.

У сярэдзіне лета прадказальна становучае сальда знешняга гандлю (прафіцыт) абвалілася амаль у 18,5 разоў пасля спынення пад ціскам Расіі сумніўных схем беларускага гандлю разам з нафтай розных растваральнікаў, разбавіцелей і змазачных матэрыялаў. Да прыкладу, калі ў пачатку лета ў чэрвені беларусы зарабілі на знешніх рынках 430,8 мільёнаў $, то ў наступным месяцы такі валютны прыток склаў усяго 23,8 мільёна жаданых "зялёненькіх". Ужо зараз спецыялісты папярэджваюць, што для Беларусі такія сумныя тэндэнцыі выклікаюць новыя сур'ёзныя праблемы на валютным рынку, паколькі пачалі імкліва зніжацца золатавалютныя рэзервы краіны.

Але новы глава Нацбанка РБ Надзея Ермакова, як і раней яе папярэднік Пётр Пракаповіч, робіць добры выгляд пры дрэннай сітуацыі і супакойвае народ, шта наша эканоміка вытрымае. Па яе словах, зараз адшукваюцца новыя варыянты паступлення валюты, каб купляць патрэбны нам імпарт, у першую чаргу энерганосьбіты, лякарствы, неабходныя камплектуючыя для вытворцаў. А ў нас пачаліся праблемы пасля таго, як расійскі ўрад спыніў пастаўкі ў РБ сыравіны-прамагоннай нафты, з якой і выраблялiся ўсе гэтыя растваральнікі і спецыяльныя прысадкі, якія не абкладаліся мытнымі пошлінамі ў рамках Мытнага саюза.

Відавочна, што ўзнікла сур'ёзная праблема, бо за граніцу наша краіна пастаўляе на экспарт і зарабляе валюту ў асноўным за нафтапрадукты, калійныя ўгнаенні. За кошт адных "растваральнікаў" мы за паўгода зарабілі дадаткова 3,5 мільярда $ без уліку даходаў ад паставак ва Украіну біядызеля з палепшанымі характарыстыкамі ў значных аб'ёмах ( да звычайнай саляркі дабаўлялі розныя спецыяльныя прысадкі з расійскай сыравіны і мелі барышы). У выніку сёлета беларусы свой экспарт змазачных матэрыялаў за кошт сумніўных схем павялічылі ў 50 разоў, а "растваральны бізнес" – у 5,4 разы.

На жаль, нядоўга такая музыка для нас гучала, бо іншыя беларускія тавары купляюць за мяжой слаба, за выключэннем мяса і малака для суседняй Расіі. Аб'ёмы прамых замежных інвестыцый таксама мізерныя, праўда, пры падтрымцы Сусветнага банка рыхтуецца прыватызацыя 8 пілотных айчынных прадпрыемстваў (самы вядомы з іх Мінскі маргарынавы завод) па продажы дзяржпакетаў іх акцый. 13 замежных кансалтынгавых кампаній і інвестбанкаў з 30 прэтэндэнтаў адабраны для гэтай працы, а прыватызацыя пачнецца ў канцы года сёлета, альбо ў пачатку 2013 года.

Між тым, не сакрэт, што па ходу ўзмацнення далейшай інтэграцыі Беларусі з суседкай на Усходзе расійскія буйныя кампаніі ставяць звыкла для любога бізнеса задачу - узяць пад свой кантроль вядучыя нашы прадпрыемствы. У ліку такіх прыярытэтных з'яўляецца мінскі МАЗ. У цяперашняй сітуацыі, як выхад, застаецца для айчынных кампаній, прыбліжаных да ўлады, той жа "Трайпл" алігарха Юрыя Чыжа, пачаць актыўна збываць нафтапрадукты на неабсяжным расійскім рынку. І той жа Ю. Чыж не спаў у шапку, а заключыў кантракт з "Башнафтай" на адгрузку іх на суму 4,36 мільярда долараў.

На нашу карысць тое, што беларускія НПЗ у Наваполацку і Мазыры лепей тэхнічна мадэрнізаваныя, чым аналагічныя расійскія, выпрацоўваюць бензін еўрастандартаў 4 і 5 і могуць на гэтым таксама няблага зарабіць. Каб застрахавацца ад праблем на валютным рынку, беларускі ўрад пачынае перамовы і па 4-му гранту крэдыта з Антыкрызіснага фонда ЕўрАзЭС у суме 440 мільёна долараў. Чарговы крэдыт нам патрэбен і для таго, каб давесці заробкі зноў да абяцаных 500 долараў, бо адначасова ў жніўні рост цэн быў самым імклівым на працягу бягучага года. І апошняя навіна-сюрпрыз для насельніцтва, для беларусаў запланавалі ўвесці нарматыў на спажыванне электраэнергіі на аднаго чалавека, за яе пераразход прыйдзецца плаціць хутка ў 2 разы даражэй.

## Дзень за днём

**Вучоным і спецыялістам Мінэнерга даручылі распрацоўку пытання ўзвядзення ў Беларусі яшчэ аднай АЭС. Пасля спынення летам сумніўных схем гандлю нафтапрадуктамі з РБ станоўчае сальда знешняга гандлю зменшылася ў 18 разоў. З-за малых даходаў і нізкіх заробкаў ужо 67 % беларускіх сем'яў гадуюць толькі адно дзіця. А. Лукашэнка паставіў задачу скараціць набор студэнтаў у айчынныя ВНУ. Акрамя адмены большасці ільгот пры паступленні ў Беларусі можа быць зменены і прадметны шэраг цэнтралізаванага тэсціравання, аб'яднаны гісторыя і грамадазнаўства. Услед за Мінскам у кастрычніку павысіцца кошт праезду ў грамадскім транспарце і ў рэгіёнах.**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Улады краіны ўпершыню адкрыта выступілі за змену ўлады ў Сірыі і за яе мірную перадачу, за стварэнне часовага ўрада, які падрыхтуе правядзенне свабодных выбараў.

**Германія.** Глава Еўрапейскага цэнтрабанка Марыо Драгі аб'явіў аб новай праграме выратавання праблемных краін ЕС, скупкі іх дзяржаблігацый без абмежаванняў сродкаў.

**Канада.** На выбарах у правінцыі Квебек перамагла партыя, якая выступае за выхад з канадскай канфедэрацыі, за стварэнне суверэннай дзяржавы і рыхтуе такі рэферэндум.

**ЗША.** Прэзідэнт Барак Абама заявіў, што яго сапернік на выбарах рэспубліканец Міт Ромні робіць грубую памылку, называючы Расію "ворагам Амерыкі нумар адзін".

**Пакістан.** Паліцыя арыштавала імама Халіда Чышці, які ілжыва абвінаваціў дзяўчынку-хрысціянку ў спальванні Карану, хоць сам паліў і дапусціў сур'ёзнае грэхападзенне.

**Грузія.** У баі з баевікамі з Дагестана на граніцы з Расіяй загінуў 41-гадовы маёр спецназа і адначасова галоўны трэнер зборнай Грузіі па самба Арчыл Чохелі, 11 бандытаў знішчылі.

**Арменія.** Краіна разарвала дыпламатычныя адносіны з Венгрыяй пасля вызвалення з турмы азербайджанскага афіцэра, ён забіў на курсах у Будапешце свайго калегу-армяніна.

**Лівія.** На радзіму даставілі збегшага ў Маўрытанію экс-главу разведкі пры рэжыме Кадафі Абдулу Сенусі па абвінавачанні ў шматлікіх злачынствах, яго вышуквала і Францыя.

**Латвія.** Сейм краіны прыняў закон аб падвойным грамадзянстве, на яго маюць права ахвяры рэпрэсій, а таксама дзеці неграмадзян, якія нарадзіліся і жывуць тут пасля 1991 г.

**Расія.** Паблізу Чыты разбіўся ваенны самалёт-знішчальнік МіГ-29, загінуў і яго пілот, за апошнія 4 гады – гэта трэці па ліку падобны трагічны выпадак у Забайкальскім краі.

**Венгрыя.** Пракуратура арыштавала 91-гадовага былога дзеяча ЦК кампартыі Б. Біжку, які загадваў арміі страляць па людзях падчас масавых антысавецкіх выступленняў у 1956 г.

**Італія.** Перад сваёй смерцю ў 85 гадоў кардынал з Мілана Марціні рэзка раскрытыкаваў становішча спраў Каталіцкага касцёла за бюракратыю, заклікаў да радыкальных перамен.

**Украіна.** Прэм'ер-міністр М. Азараў, рускі па паходжанні, выказаў незадаволенасць засіллем расійскіх кніг на ўкраінскім рынку, даў ільготы ўкраінскім выдавецтвам.

**Расія.** Пасля разводу з 58-гадовым мужам, мясным магнатам 42-гадовая заслужаная артыстка РБ А. Агурбаш засталася без жылля ў Маскве і ўвогуле без сродкаў на існаванне.

**Карэя.** На 93-м годзе жыцця памёр мільярдэр, рэлігійны дзеяч- новы "месія", заснавальнік руху "Царква аб'яднання" Сан Мён Мун, які разам з жонкай ладзіў масавыя вяселлі.

## Сярэдні заробак у бюджэтнікаў стане $500 праз год



■ БелТА

**У Беларусі сярэднюю заработную плату работнікаў бюджэтнай сферы ў снежні 2013 года плануюць павысіць да $500 у эквіваленце.**

Аб гэтым паведаміла начальнік галоўнага ўпраўлення працы і заработнай платы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Ірына Казліцінава, каментуючы задачы, пастаўленыя на нарадзе ў Лукашэнкі 11 верасня.

«Асноўным падыходам методыкі фарміравання заробку работнікаў бюджэтнай сферы ў 2013 годзе будзе ў першую чаргу пашырэнне правоў кіраўнікоў рэспубліканскіх органаў упраўлення, выканкамаў і бюджэтных арганізацый у пытаннях стымулявання работнікаў, гэта значыць у размеркаванні г.зв. надтарыфнай часткі заробку, — патлумачыла прадстаўнік міністэрства. — Гэта дасць магчымасць стымуляваць работнікаў за выніковасць працы, праяўленне прафесіяналізму і ініцыятывы».

Як раней паведамлялася, у бюджэтнай сферы ў снежні гэтага года намінальная заработная плата павінна дасягнуць 3 млн 300 тыс. рублёў [зараз гэта 392 долары ў эквіваленце].

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Беларускія і расійскія акцыянеры вырашылі ўсе спрэчныя пытанні аб стварэнні сумеснай кампаніі "Саюзкалій", яна будзе зарэгістравана ў Швейцарыі, мае 40 % рынку.

**Горкі.** З-за негатоўнасці шэрагу аб'ектаў чарговы фестываль-кірмаш працаўнікоў вёскі "Дажынкі-2012" правялі на тыдзень пазней, перад самымі парламенцкімі выбарамі.

**Брэст.** Падчас планавых заняткаў па баявой падрыхтоўцы ў выніку неасцярожнага абыходжання са зброяй загінуў салдат сіл спецаперацый, прызваны з Лоеўскага раёна.

**Мінск.** Следства пакуль не знайшло прычын і сведкаў трагедыі, калі з 9 паверха разам з двума малымі сынамі выкінулася насмерць 32-гадовая супрацоўніца агенства БЕЛТА.

**Брэст.** Больш месяца пражыла маладая сям'я ў пад'ездзе аднаго з дамоў на лесвічнай пляцоўцы, калі дзеці перасталі пускаць у кватэру ўнука-алкаголіка за такія паводзіны.

**Мінск.** На самым папулярным тэлеканале АНТ беларусы найбольш глядзяць праграмы "Поле цудаў" (19,6 % рэйтынг), "Няхай гавораць" з А. Малахавым (12,8 %) і "Время".

**Валожын.** У выніку ранішняй страшнай аварыі на тэрыторыі раёна іншамарку кінула пад фуру, загінулі 3 чалавекі, былі паранены пасажыры спадарожнага аўто, кіроўца фуры.

**Навагрудак.** Сінод БПЦ пазбавіў сана праваслаўнага святара іерэя Пятра за быццам раскольніцкую дзейнасць і забараніў служыць айцу Іаану, які перайшоў ва ўніяцтва.

**Барысаў.** Амаль двое сутак большасць жыхароў 150-тысячнага горада з-за аварыі калектара, забітага адыходамі, заставаліся без падачы халоднай і гарачай вады.

**Пінск.** Пасля затрымання ў Польшчы эксгендырэктара холдынга "Пінскдрэў" Ларана Арыніча, Генпракуратура РБ актывізавала афіцыйны працэс яго экстрадыцыі на радзіму.

**Горкі.** Напярэдадні фестываля-кірмашу "Дажынкі-2012" улады перайменавалі плошчу Леніна ў райцэнтры ў Цэнтральную плошчу, але знішчылі дом пісьменніка М. Гарэцкага.

**Мінск.** Намеснік міністра адукацыі РБ В. Будкевіч прызнаўся журналістам, што не ведае, у якую школу пайшоў вучыцца сёлета Коля Лукашэнка, па чутках, ён вучыцца дома.

**Бабруйск.** Уладальнік 5 залатых медалёў на Параалімпіядзе ў Лондане 18-гадовы плывец Ігар Бокій заявіў аб намерах прабіцца і на Алімпіяду сярод здаровых спартсменаў.

**Гомель.** У абласной бальніцы вылечылі 5 дзяцей пасля нападзення на іх рою вос на гульнявой пляцоўцы дзетсада, МНС потым адразу знішчыла гэта асінае гняздо.

**Мінск.** Міністр спорту і турызму РБ А. Качан са злосцю прызнаў, што калі нічога не зменіцца ў галіне, будзе правалена Алімпіяда ў Сочы, а за ёй і наступныя буйныя старты.

## У Беларусі пакуль не плануюць вяртацца на зімовы час

**Аб гэтым БелаПАН паведаміў начальнік аддзела радыёэлектронных вымярэнняў Беларускага дзяржаўнага інстытута метралогіі Аляксандр Галыга, каментуючы ўчарашняе ўнясенне ў Дзярждуму Расіі законапраекта аб пераходзе на пастаянны зімовы час.**

Паводле слоў Галыгі, у выпадку зацвярджэння законапраекта ў Расіі зменіцца часавы пояс, ён будзе такім жа, як у Беларусі. Пакуль афіцыйнага паведамлення з Расіі пра неабходнасць узгаднення часу ў Беларусь не паступала. «Калі ніякіх паведамленняў не будзе, то ўсё застанецца па-старому, — сказаў Галыга. — У нас пакуль нічога не прадугледжвалася».

Ён дадаў, што ў адпаведнасці з законам аб забеспячэнні адзінства вымярэнняў падрыхтоўка падобных рашэнняў знаходзіцца ў кампетэнцыі Міжгаліновай камісіі па часе, частаце і вызначэнні параметраў вярчэння Зямлі. Нагадаем, Беларусь следам за Расіяй прыняла рашэнне не пераходзіць больш на зімовы час, пачынаючы з восені 2011 года, пакінуўшы на сваёй тэрыторыі летні час назаўсёды.

Такім чынам, час у Беларусі, якая знаходзіцца ў адным часавым поясе з Украінай, Літвой і некаторымі іншымі краінамі, з лістапада па сакавік адрозніваецца ад часу ў гэтых краінах на адну гадзіну.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Браслаў.** Па рашэнні ўрада РБ спыніла працу міждзяржаўная ЛЭП Браслаў-Даўгаўпілс напружаннем 110 кВ, яна стала непатрэбнай для латышоў для сілкавання іх горада.

**Віцебск.** Экс-намеснік губернатара і былы кіраўнік БРСМ Л. Кавалёў атрымаў 6 гадоў турмы з улікам 1 года амністыі на закрытым судовым працэсе ў Мінску за буйны хабар.

**Полацк.** Паблізу горада зрабілі абвадны канал ракі Заходняя Дзвіна і змянілі яе русла, каб тут можна было пачынаць будаўніцтва Полацкай ГЭС магутнасцю 110 млн. кВт/гадзін.

**Талачын.** Адзін з буйнейшых у краіне элеватараў выканаў планы дзяржзакупак, засыпаў у сховішчы 110 тысяч тон збожжа і 30 тысяч тон рапсу, да мая тут праца – кругласутка.

**Мосар.** На трэці дзень VIII Міжнароднага кінафестываля хрысціянскіх фільмаў "Maqnificat" яго ўдзельнікі наведалі касцельна-паркавы ансамбль і кляштар на Удзела.

**Лепель.** У ліку 4-х пешаходаў, загінуўшых за выхадныя ў РБ у ДТЗ, ля райцэнтра раніцай на дарозе знайшла смерць 27-гадовая жанчына, якая раптам выбегла на трасу.

**Глыбокае.** Яшчэ 8 месяцаў за кратамі замест хуткага выхаду на свабоду атрымаў лідар зарэгістраванага ў Чэхіі "Маладога фронта" З. Дашкевіч, яго этапіравалі ў Віцебск.

**Браслаў.** Па гарачых слядах міліцыя адшукала і затрымала беспрацоўнага 44-гадовага гараджаніна, які днём украў электраінструментаў на 1 мільён рублёў у пенсіянеркі.

**Віцебск.** Следчы камітэт распачаў справу па факце давядзення да самазабойства ў часці 103 мабільнай брыгады 22-гадовага салдата, прызванага на службу толькі вясной у маі.

**Паставы.** Аддзяленне хуткай дапамогі райбальніцы атрымала другі па ліку сёлета спецаўтамабіль, поўнасцю замяніла свой аўтапарк, закуплена патрэбнае медабсталяванне.

**Верхнядзвінск.** У пункце пропуску "Бігосава-1" КДБ сумесна з мытняй і пагранслужбай выявіла зноў буйны канал кантрабанды тытунёвых вырабаў па чыгунцы ў Латвію.

**Дуброўна.** У лясным гушчары на тэрыторыі раёна мясцовы жыхар знайшоў адразу 97 мінамётных мін часоў Вялікай Айчыннай вайны, гэты арсенал потым знішчылі сапёры.

**Лёзна.** У мясцовым ваенна-гістарычным музеі адкрылі абласную выставу "Геральдычны вянок Віцебшчыны" з выстаўленнем 42 гербаў гарадоў, райцэнтраў і гарпасёлкаў.

**Глыбокае.** Шэраг вельмі каштоўных кніг перадаў у падарунак занальнаму архіву акадэмік, вучоны з Гродна Андрэй Майсяёнак, ён нарадзіўся ў Глыбокім, у будынку, дзе раней была бальніца.

**Віцебск.** У новым буйным жылым мікраёне горада Білёва да пабудаванай СШ і дзетсада дабавіўся яшчэ адзін сучасны дзіцячы сад на 230 месц з басейнам і інфракраснай саунай.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Наталья Кривичанка

## На взлёте

*Марине Шкерманковой*

— «Марина Шкерманкова! Беларусь!» —
вот так Мечта победной явью стала.
Ты звёздочкой, забыв про тяжкий груз,
легко взошла на небе Пьедестала!

Был бой, а сколько будет впереди…
Бойцовский у тебя характер с детства.
И с олимпийской бронзой на груди
для золота есть непременно место!

На взлёте этом смелом, молодом
тебе пошёл лишь двадцать третий годик.
Но принял каждый белорусский дом
твой маленький и всё ж великий подвиг.



Запечатлелся в памяти тот миг:
уверенный толчок – реально, зримо,
и над Туманным Альбионом крик,
и эхом – целый мир: «Держать, Марина!..»

Вес взят! Ну вот и первая медаль
для родины. Святое ликованье.
Ведь в свой Олимп ты верила всегда,
ещё девчонкой на заре на ранней.

…Хоть моря нет на Белой на Руси,
но ты у нас по имени – морская.
Родное знамя, как маяк, неси,
над рифами коварными взлетая!

*Август 2012 г.*

## Часовня



Часовня на кладбищенском холме.
Туда ведут старинные ступени.
О, как бездонно движутся во мне
её живые духи или тени…

В какой-то миг брела я много лет
вдоль стен, рукою времени распятых.
Закидывала голову, где свет
и мрак в пустых проёмах ветром плакал.

И мир, изнемогающий от мук,
внезапно потерял свою реальность…
Лишь сердца человеческого стук,
дум вековых блаженная усталость,

вселенское объятие крестов
и Вечность – за чертой часовни этой.
…Я тронула проржавленный засов
виском, и – не ослушалась запрета…

## Мама

Снится нам старый домик окраинный.
Мама рано вставала всегда.
Вкусно пахло картошкою жареной,
и на кухне журчала вода.

Мы как-будто с тобой и не видели,
как была молода наша Мать –
в жизни той, что казалась обыденной
и влекла сразу взрослыми стать...

Спели вишни за тихими окнами,
и над полем парил небосвод.
Но какими корнями глубокими
в нас теперь эта память живёт...

Омут вечера двор ополаскивал.
Мать усталость скрывала свою.
Говорила то строго, то ласково,
на совет собирая семью.

Пели травы вечерними струнами.
Мама слушала их на крыльце.
Было столько девичего, юного
и в фигуре Её, и в лице...

Волны лет понеслись скоротечные,
но внезапно застыла душа:
в невозвратную даль бесконечную
Ненаглядная наша ушла...



И теперь на Земле этой горестной
снится нам Мамин дом, Мамин сад –
чуткий мир, над которым покоится
Её светлый задумчивый взгляд.

# Князь Глымба, або адкуль пайшла назва Глыбокае

*Легенда–казка*

■ Віктар Дудкевіч

У тыя старажытныя часы, калі людзі пакланяліся розным багам, жыў працавіты і вольналюбівы народ крывіты. Жылі яны разрозненымі плямёнамі. Адно такое племя жыло на беразе невялікай ракі, якая ўпадала ў вялікую раку Туманную. Валадарыў на гэтай зямлі князь Глымба. Празывалі яго проста Глыба. Можа, за тое, што быў ён цвёрды ў сваіх рашэннях, ды і фізічна быў вельмі моцны: у адзіночку хадзіў на мядзьведзя і дзіка.

Роста князь быў вялікага, з плячыма шырокімі, тварам прыгожы. Валасы меў доўгія, кучаравыя, бараду ён стрыг. Гаварыў ясна, бо быў філосаф. Не хлуслівы, не хабарнік, праўдзівы, зладзейства ненавідзеў. Хмельнага пітва ж не піў ад маленства свайго. А суседнія плямёны, якія прыплывалі з-за замежжа, звалі яго Глюба, што азначала слізкі, зваротлівы, як вугор. Бо быў ён хітры, з любога становішча выходзіў, як кажуць, сухім з вады.

Ворагі не раз хацелі захапіць гэтыя мясціны, але князь быў добрым ваяром і дружына была добрая, моцная, ды і народ быў храбрым. Вытрымалі не адзін напад. Аднойчы, пад час жніва, прыплылі з далёкай поўначы ворагі. Напалі яны нечакана, калі людзі працавалі ў полі. Хто паспеў, той схаваўся за крапаснымі сценамі.

І пачалася вялікая сеча. Сілы былі няроўныя. Падмогі чакаць не было адкуль, не кожны князь гатоў быў прыйсці на дапамогу, ды і не паспеў бы.

У адным з баёў быў цяжка паранены і сам князь. Пачалася аблога самой крэпасці. Князь бачыў, што аблогі не вытрымаць, таму, каб захаваць людзей і прадоўжыць свой род, жыхары па загадзе князя ноччу пакінулі крэпасць па падземнаму ходу. У крэпасці засталіся толькі добраахвотнікі, каб прыкрыць адыход. Раніцай, калі ворагі пайшлі на штурм, бой быў нядоўгім. Калі яны захапілі крэпасць, то зразумелі, што іх падманулі. Уцекачы ішлі таямнічымі сцежкамі, якія былі вядомыя толькі аднаму паляўнічаму па імені Таўхцівіл. Князя неслі на насілках ваяры з ягонай дружыны.

Ворагі кінуліся ў пагоню, але, як кажуць, не знаеш броду, не лезь у ваду. Многія ворагі патанулі ў дрыгве. Бачачы, што ім не дагнаць уцекачоў, вярнуліся яны назад. Раззлаваныя, яны палілі і руйнавалі ўсё, што траплялася ім пад рукі, каб нічога не напамінала аб гэтым гордым і непакорным народзе.

Доўга блукалі ўцекачы па лясах і балотах, пакуль не выйшлі да невялікага возера, якое ляжала ў нізіне, як быццам у русле якой вялікай ракі. Ім спадабаліся гэтыя мясціны. Быў тут і лес, і балота з процілеглага боку, якое магло прыкрыць ад ворагаў. Была і зямля для пасеваў.

Паціху пачалося адраджэнне. Аклямаўся таксама і сам князь. Жыццё пачалося наладжвацца. Побач пачалі сяліцца і іншыя людзі. Яны прыходзілі за дапамогай і за мудрай парадай да князя. Яны казалі: "Пойдзем да глыбоцкіх (так сталі называць гэтых людзей), яны людзі добрыя – дапамогуць.

З таго часу прайшло шмат гадоў. Памёр сам князь, далі аб сабе знаць старыя раны. Шмат што загінула ў агні войнаў. Дзе было першае паселішча, ужо ніхто не памятае. Але і да гэтага часу людзей называюць глыбачанамі, а горад, што стаіць на тым месцы, называецца Глыбокае. Праўда, з часам літара «м» дзесьці згубілася, але гэта не так і важна. Бо людзі засталіся добрымі, ветлівымі, як кажуць, глыбокай душы.



# Запрашаем у Мосар 5-7 кастрычніка на малітоўную сустрэчу і рэкалекцыі ўсіх, хто хоча жыць у Цвярозасці

**Усіх жадаючых запрашаем ў Мосар на Юбілейную малітоўную сустрэчу з нагоды 5-цігоддзя Алеі Цвярозасці, пасаджанай групамі АА з Беларусі і замежжа.**

У Мосары адбудуцца трохдзённыя рэкалекцыі 5-7 кастрычніка, кульмінацыяй якіх будзе святкаванне Сусветнага Дня Цвярозасці. У праграме: сустрэчы, адпачынак, канферэнцыі і малітва.

Пражыванне, харчаванне і начлег будзе магчымы ў "Доме Пілігрыма", а таксама ў хатах у вернікаў. Пажадана ўзяць з сабой спальны мяшок ці падушку, коўдру і пасцельную бялізну. Кожны ўдзельнік можа скласці толькі дабравольнае ахвяраванне, каб пакрыць выдаткі за пражыванне ў парафіі.

У "Доме Пілігрыма" ёсць усё для жыцця, зроблены ўсе выгоды, як у горадзе, таму ў ім можна спыніцца разам з дзецьмі. Парафія ў стане прыняць на начлег да 17 чалавек. Умовы простыя, як для пілігрымаў, — усё неабходнае, каб пераначаваць, пажыць у святым месцы каля Мосарскага Санктуарыя, пабыць сам на сам з Богам!

У Мосары таксама шмат сажалак з рыбай і знаходзіцца вялікае возера Царкавішча, тут прыемнае чыстае паветра, палі, лясы і проста цудоўнае, ціхае, прыгожае і святое месца для адпачынку і рэкалекцый.

Прыкладны расклад дня падчас рэкалекцый:

**5 кастрычніка (пятніца):**

9:00 – Рэгістрацыя і размяшчэнне ўдзельнікаў.
10:00 – Сняданне.
10:30 – Сустрэча і знаёмства.
12:00 – Спатканне ў касцёле. Знаёмства з гісторыяй парафіі.
12:30 – Малітва перад рэліквіямі святога Юстына аб цвярозасці нашых сем'яў, моладзі і нашага беларускага народа.
13:00 – Канферэнцыя.
14:00 – Абед.
15:00 – 17:00 – Сустрэчы ў групах.
17:00 – Святая Імша з рэкалекцыйнай навукай.
19:00 – Вячэра.
20:00 – Вольны час.
21:30 – Вячэрнія малітвы.

**6 кастрычніка (субота):**

09:00 – Ранішнія малітвы. Сняданне.
10:00 – Знаёмства з Мосарам.
Добраўпарадкаванне Алеі Цвярозасці.
14:00 – Абед.
15:00 – Вандроўка адчыненых вачэй. Канферэнцыя.
16:00 – 17:00 – Сустрэча групаў АА.
17:00 – Адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта. Малітва аб цвярозасці.
18:00 - Урачыстая Святая Літургія з Працэсіяй.
19:00 – Вячэра.
20:00 – Вогнішча.
21:30 - Вячэрняя малітва.



**7 кастрычніка (нядзеля):**

09:00 – Ранішнія малітвы. Сняданне.
10:00 – Знаёмства з Мосарам. Наведванне Музея.
11:00 – Ружанцовая малітва каля капліцаў.
12:30 – Час Сведчання.
13:00 – Святая Імша з рэкалекцыйнай навукай.
14:00 – Абед.
15:00 – 17:30 – Сустрэча групаў АА. Абмеркаванне і праваздача з жыцця.
18:00 – Вольны час.
19:00 – Вячэра.
20:00 – Ад'езд. Развітанне.

Кантакты для дамаўлення аб начлезе знаходзяцца на сайце мосарскай парафіі http://mosar.vickyblog.com у рубрыцы Кантакт.

Неўзабаве добрая слава Мосара пашыраецца і сапраўды паступовa "Санктуарый" св. Юстына-мучаніка становіцца духоўным цэнтрам на базе створанай прыгажосці, які збірае вакол сябе людзей, якія шукаюць духоўную дапамогу, і цвярдыняй малітвы аб вызваленні ад алкагалізму!!!

Падрабязная інфармацыя на сайце:
**http://mosar.vickyblog.com**

***Ксёндз Аляксей Юркайць,*** *адміністратар парафіі Мосар.*

■ Н. А. Баравік

# Новая кніга аб гісторыі адукацыі ў нашым краі

**Аднаўленне сістэмы народнай адукацыі пасля вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў летам 1944 г. Браслаўскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Мёрскага, Пастаўскага, Шаркаўшчынскага раёнаў з'яўлялася адной з першарадных задач нармалізацыі жыццядзейнасці гэтых рэгіёнаў.**

**У нашым горадзе ёсць установа, якая не толькі збірае, падшывае і захоўвае дакументы, але займаецца гістарычнымі даследаваннямі і выдае кнігі. Гэта – Глыбоцкі дзяржаўны занальны архіў.**

**Сёння пабачыла свет новая кніга «Послевоенное восстановление системы народного образования в Браславском, Докшицком, Глубокском, Миорскм, Поставском, Шарковщинском районах (1944-1950 гг)».**

**Гэты матэрыял – прэзентацыя новай кнігі, якую падрыхтаваў і выдаў наш Дзяржаўны занальны архіў. Кніга разлічаная на шырокае кола чытачоў.**

Варта мецьна ўвазе, што згодна з умовамі Рыжскага дагавора 1921 г. тэрыторыя сучасных Браслаўскага, Докшыцкага, Глыбоцкага, Мёрскага, Пастаўскага, Шаркоўшчынскага раёнаў Віцебскай вобласці па верасень 1939 г. належала Польшчы. Новаадміністрацыйнатэрытарыяльнае дзяленне было ўстаноўлена тут пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі з БССР. У склад Вілейскай вобласці 15 студзеня 1940 года ўвайшлі Браслаўскі, Відзаўскі, Дзісненскі, Докшыцкі, Дунілавічскі, Глыбоцкі, Мёрскі, Плiскі, Пастаўскі і Шаркоўшчынскі раёны.

Пасля ўз'яднання заходніх абласцей з БССР на іх тэрыторыі пастановай ЦК КП(б)Б «Аб мерапрыемствах па арганізацыі народнай адукацыі ў заходніх абласцях БССР» ад 1 снежня 1939 г. прадугледжвалася: «...Увесці на ўсёй тэрыторыі заходніх абласцей Беларускай ССР усеагульную абавязковую бясплатную адукацыю. У гарадах – за 7 класаў сярэдняй школы, на вёсцы – за пачатковую школу.

2. Перабудаваць сістэму народнай адукацыі ва ўсіх школах Заходніх абласцей БССР у адпаведнасці з савецкай сістэмай народнай адукацыі: а) увесці сумеснае навучанне навучэнцаў, ліквідаваўшы дзяленне школ на мужчынскія і жаночыя; б) рэарганізаваць пяцігадовыя (?) школы 1-й ступені ў пачатковыя школы, школы 2-й і 3-й ступеняў – у няпоўныя сярэднія школы, гімназіі і агульнаадукацыйныя ліцэі – у сярэднія школы; в) на падставе савецкага заканадаўства і Канстытуцый СССР і БССР спыніць выкладанне рэлігіі і выкананне рэлігійных абрадаў ва ўсіх школах. Партарганізацыі пры ажыццяўленні гэтай задачы павінны забяспечыць глыбокую тлумачальную працу, якая выключае ўсякае адміністраванне і грубасць, якія могуць абразіць пачуцці веруючых.

3. Лічыць, што асноўная маса школ у заходніх абласцях БССР павінна быць беларускай ...».

На XII з'ездзе КП(б) Б у лютым 1929 г. была пастаўлена задача аб паэтапным увядзенні ў БССР усеагульнага абавязковага навучання ў пачатковай школе дзяцей 8-11 гадоў. Да канца 1931/32 навучальнага года 97,9% дзяцей рэспублікі было ахоплена такім навучаннем, а з восені 1932 г. у БССР пачалі ўводзіць усеагульнае абавязковае 7-гадовае навучанне і ліквідаваць аднакамплектных школ (з адным настаўнікам і трохгадовым тэрмінам навучання). У той час як у заходніх абласцях правядзенне рэарганізацыі існуючых школ на савецкую сістэму навучання пачалі праводзіць толькі з снежня 1939 года.


Навучэнцы Глыбоцкай педагагічнай вучэльні працуюць на падсобнай гаспадарцы. Пачатак 1950-х гг.

Адчуваўся недахоп педагагічных кадраў. У заходнія раёны накіроўваліся настаўнікі з усходніх абласцей БССР, былыя беспрацоўныя. У 1940 г. 66 школ Вілейскай вобласці не працавала з-за адсутнасці настаўнікаў.




Пасля Вялікай Айчыннай вайны востра адчуваўся недахоп памяшканняў для школ, у аднаўленні якіх прымалі ўдзел як бацькі навучэнцаў, так і самі школьнікі. Паўсюдна ішло будаўніцтва так званым «метадам народнай будоўлі», праводзіліся суботнікі, вызваляліся школьныя памяшканні, якія выкарыстоўваліся падчас вайны як бальніцы, для гаспадарчых патрэб. Да 1949 г. у Полацкай вобласці працавала 895 школ, з іх беларускіх – 858, рускіх – 37.

Для ўключэння ў школу дзяцей, якія мелі вострую патрэбу ў адзенні і абутку, ствараліся фонды ўсенавуча. Варта адзначыць, што маючы грошы ў фондзе ўсенавуча, школы не заўсёды маглі іх выкарыстоўваць па той прычыне, што гандлёвыя арганізацыі і прамысловыя арцелі ў раёнах не выраблялі і не завозілі ні адной пары абутку, ні аднаго паліто для школьнікаў.

Улік дзяцей, якія падлягалі ўсенавучу, быў ускладзены на райвыканкамы і сельсаветы. Так на 01.12.1947 ў Полацкай вобласці школу не наведвала 2741 навучэнцаў, у тым ліку 262 чалавекі з-за адсутнасці адзення і абутку, 1116 чалавек – з-за занятасці на працы бацькоў. Падчас халадоў, а таксама рэлігійных святаў колькасць ненаведваючых школы павялічвалася.

Вайна прывяла да змены ў складзе і колькасці педагагічных кадраў. У гарадскіх школах працавала толькі 13% настаўнікаў ад агульнай іх колькасці. Востра адчувалася неабходнасць у выкладчыках матэматыкі, фізікі, беларускай мовы. Настаўнікамі замежнай мовы часцяком працавалі людзі без спецыяльнай падрыхтоўкі, якія ў нейкай ступені асвоілі яго падчас вучобы ў інстытуце (не па курсе асноўнай спецыяльнасці) або навучыліся гутарковаму вымаўленню ў перыяд нямецкай акупацыі.

Полацкі абласны аддзел народнай адукацыі перыядычна інфармаваў Міністэрства асветы БССР пра недахоп настаўнікаў. Напрыклад, у 1948/49 навучальным годзе дадаткова патрабавалася наступная колькасць настаўнікаў для 5-7 і 8-10-х класаў: па Браслаўскім раёне – 70 чалавек, Докшыцкім – 33, Плiскім – 10, Відзаўскім – 39, Мёрскім – 32, Дзісненскім – 36, Глыбоцкім – 11, Дунілавічскім – 17, Шаркоўшчынскім – 20. Для паляпшэння забяспечанасці настаўніцкімі кадрамі было прынята рашэнне вярнуць у школы настаўнікаў, якія працуюць не па спецыяльнасці.

Пасля вайны аднавілі працу завочныя настаўніцкія інстытуты, курсы па падрыхтоўцы настаўнікаў, у верасні 1944 г. былі адкрыты педагагічныя вучылішча ў г. Глыбокае і г. Паставы.

На 01.01.1949 у школах Полацкай вобласці працавала 3517 настаўнікаў, у тым ліку з вышэйшай адукацыяй – 222, з іх жанчыны складалі 74%.

Павышаная ўвага надавалася ідэйна-палітычнай падрыхтоўцы настаўніцтва, паўсюдна вялася барацьба супраць наведвання настаўнікамі храмаў. У той жа час і самі настаўнікі вялі актыўную палітыка-асветніцкую працу сярод насельніцтва і навучэнцаў.

У 1944 г. загадам народнага камісара асветы БССР было адменена сацыялістычнае спаборніцтва ў школах. У загадзе гаварылася: «... *Якасць работы педагога часта ацэньвалі ў залежнасці ад сярэдняга процанта паспяховасці. Гэта аказала дауленне на настаўніка і ён часта пераставаў аб'ектыўна падходзіць да ведаў вучняў. Вучні задорна бралі на сябе розныя абавязацельствы, але хутка іх забывалі. Яны саздавалі падчас глебу для вырашчвання балтуноў і фармалістаў. Розныя «дошкі вучота» з кружкамі толькі дапамагалі развіццю ў классе, у школе штурмаўшчыны, голай пагоні за ацэнкамі, часта пры раўнадушшы настаўніка да рачаіснасці і якасці ведаў… У выніку такіх скажэнняў асноў вучэбна - выхаваўчай работы ў многіх школах фармальныя: паказчыкі паспяховасці растуць, а ў сапраўднасці вучні не становяцца ні больш пісьменнымі, ні больш адукаванымі…».*

Пяцібальная сістэма ацэнкі ведаў стала прымяняцца з 1944 г.

У пасляваенны час пачала дзейнічаць сетка школ рабочай моладзі, пазней пачалі працаваць школы сельскай моладзі. Навучанне для пераросткаў ад 11 да 15 гадоў у вячэрніх школах вялося без адрыву ад вытворчасці.

Дзякуючы напружанай працы педагагічных кадраў па стварэнні зноўку сеткі школьных установ, увядзенні ўсенавуча, умацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы школ у цяжкія пасляваенныя гады, ішло інтэнсіўнае развіццё сістэмы народнай адукацыі заходняга рэгіёну ў 1944-1950 гады.

# Унікальныя выданні XVII стагоддзя вярнуліся ў Беларусь

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі 24 верасня адбылася ўрачыстая цырымонія перадачы ў яе фонды першых выданняў рарытэтнага трактата «Вялікае майстэрства артылерыі» Казіміра Семяновіча.**

Выданні 1650 і 1651 гадоў дырэктару НББ Раману Матульскаму ўручыў старшыня праўлення «БПС-Ашчадбанка» Васіль Мацюшэўскі. Кнігі былі купленыя міжнароднай групай «Ашчадбанка» Расіі ў асобе «БПС-Ашчадбанка».

Бібліёграф Таццяна Рошчына адзначыла, што Семяновіч быў «адным з тых беларусаў, якія змянілі свет. Кнігі не страцілі значнасці і цяпер, бо менавіта яны сталі асновай для ракетабудавання. Нягледзячы на тое, што Семяновіча лічаць сваім і палякі, і літоўцы, не даводзіцца сумнявацца ў яго беларускім паходжанні».

Расказваючы пра рарытэтныя выданні, бібліёграф таксама адзначыла, што Казімір Семяновіч за 250 гадоў да Цыялкоўскага апісаў страенне шматступенчатай ракеты, а таксама крыло трохвугольнай формы, без якога немагчыма ўявіць сучасныя звышгукавыя знішчальнікі.

«На тэрыторыі Беларусі захавалася невялікая частка нашай багацейшай кніжнай спадчыны. На жаль, мы не можам пахваліцца наяўнасцю ў нашых фондах нават 10% кніжнага багацця нашых продкаў», — адзначыў у гутарцы з журналістамі Матульскі.

Васіль Мацюшэўскі адзначыў важнасць «ўсвядомленага акта, які зрабіў банк па куплі і вяртанні на радзіму гісторыка-культурнай каштоўнасці». Ён нават падкрэсліў, што вяртанне кожнай кнігі на гістарычную радзіму — гэта «сапраўдная падзея». «Мы, бізнесмены, нясём адказнасць за культуру тэрыторыі, на якой знаходзімся. Мы лічым сваім абавязкам даць магчымасць вярнуцца ў культурную прастору Беларусі спадчыны нашага вялікага земляка. Я спадзяюся, што такія сустрэчы неўзабаве стануць звычайнымі», — заявіў банкір.

Выданні трактата Казіміра Семяновіча «Вялікае майстэрства артылерыі» напісаны на латыні, утрымліваюць 206 малюнкаў па эскізах самога аўтара. Кніга была перакладзена на розныя мовы. Па гэтай працы славутага беларуса каля 200 гадоў вучыліся артылерысты ўсяго свету.



**Тытульны ліст трактата Казіміра Семяновіча «Вялікае майстэрства артылерыі» (справа).**

# З пачатку года 66 чалавек атруціліся грыбамі, сямёра памерлі

**Як паведамілі ў Міністэрстве аховы здароўя, колькасць выпадкаў атручвання грыбамі вырасла з надыходам грыбнога сезона. Найбольшая колькасць пацярпелых зарэгістравана ў Мінску — 36 чалавек.**

Выпадкі са смяротным зыходам адзначаліся ў Мінску, Гомельскай і Гродзенскай абласцях.

Нагадаем, за ўвесь 2011 год у Беларусі ад атручвання грыбамі пацярпела 147 чалавек, двое памерла.

Як адзначаюць у міністэрстве, прычына атручванняў — няведанне відавага саставу грыбоў, ігнараванне правіл іх збору і гатавання.

У Міністэрстве аховы здароўя нагадваюць, што атручванні грыбамі маюць характэрныя прыкметы.

Захворванне, як правіла, пачынаецца раптоўна, праз 3–12 гадзін пасля ўжывання грыбоў. Першыя сімптомы — рэзкі боль у жываце, нястрымныя рвота, панос, слабасць, галаўны боль. У далейшым могуць далучацца такія сімптомы, як сутаргі, галюцынацыі, трызненне. Смяротнасць пры атручванні неядомымі грыбамі дасягае 25–50%.

Пры гэтым спецыялісты адзначаюць, што атручванне можа настаць не толькі ад ужывання атрутных па сваёй прыродзе грыбоў, але і ад умоўна-ядомых, калі не выконваць асноўныя правілы іх гатавання.

Да ўмоўна-ядомых грыбоў адносяцца некаторыя віды сыраежак, свінухі, ваўнянкі, чарнушкі і іншыя.

Міністэрства аховы здароўя нагадвае, што ў лесе трэба збіраць толькі заведама ядомыя грыбы, адразу іх перабіраць і сартаваць, выкідваючы старыя. Не рэкамендуецца купляць грыбы ў месцах несанкцыянаванага гандлю. Пласціністыя грыбы неабходна купляць толькі з ножкамі, каб, напрыклад, ідэнтыфікаваць бледную паганку, якая мае клубнепадобнае патаўшчэнне ножкі «каўнерык».

Усе грыбы неабходна адварваць, а адвар зліваць. Умоўна-ядомыя грыбы трэба адварваць мінімум двойчы, штораз не менш як 50 хвілін. Абодва разы грыбы пасля варкі трэба прамываць праточнай вадой.

Грыбы нельга ўжываць дзецям да трох гадоў, а таксама людзям з хваробамі печані і абмену рэчываў.

Пры з'яўленні першых сімптомаў атручвання грыбамі неабходна неадкладна звяртацца па медыцынскую дапамогу.

*БелаПАН*

**РЫЖЫКІ**

Рыжыкі, рыжыкі:
І без чаркі – дрыжыкі!
А калі за чаркаю –
Чарка лёгкай хмаркаю
Летуценна сцелецца
Над бяседнай спеліцай.

Рыжыкі салёныя,
Лесам блаславёныя,
Каб каляднай поўняю
Пра яго мы ўспомнілі.

Помнім! Прычашчаемся,
З дабаўкай не спрачаемся.

Не марнеў ніколі
Рыжык у застоллі:
З чаркай ці без чаркі ён –
Частаванне царскае.
Роўніцы не знае
Смаката лясная.

Рыжык рыжачубы,
Рыжык ганаровы,
Рыжык – туз бубновы
Царства грыбнога:
Рыжык ломіць зубы,
Рыжык зводзіць бровы!.. –
Ах!.. –
Лес мой, дружа любы,
Будзь жа здаровы!

*Так успеў грыб рыжык паэт Васіль Зуёнак.*



# Рыжыкі

■ **Яўген Самсонаў**

Рыжык – назоў групы грыбоў. Адрозніваюцца агульнай жоўта-ружовай або памяранцава-чырвонай афарбоўкай і наяўнасцю млечнага соку, таксама афарбаванага ў адценні чырвонага колеру.

Высока шануюцца як ядомыя грыбы ў шматлікіх краінах міру, у некаторых краінах лічацца дэлікатэсам. У Беларусі па каштоўнасці раўнуецца з баравіком.

Неспрактыкаваныя грыбнікі могуць зблытаць рыжыкі з умоўна-ядомай і меней каштоўнай ваўнянкай ружовай (Lactarius torminosus), якая добра адрозніваецца па бескаляровым млечным соку і моцна вісячай паверхні капялюшыка.

**Як захоўваць смажаныя рыжыкі.**

Маладзенькія, добра абсушаныя рыжыкі смажаць на патэльні ў вялікай колькасці масла (іх нельга перасушваць і перасмажваць). Потым астуджваюць, раскладваюць у шкляныя слоікі ці гаршкі так, як яны растуць — шапачкай уверх, і заліваюць тым самым маслам, у якім яны смажыліся. Яно павінна быць прыблізна на тры ці чатыры пальцы над грыбамі. Гарачае масла ліць нельга, а толькі тады, калі яно ўжо амаль што не цячэ.

Посуд, добра абвязаны пузыром, трымаюць у сухім і халодным месцы. Рыжыкі такія вельмі смачныя, асабліва калі іх падсмажыць яшчэ раз і падаць як гарнір да мясной ежы. Але і самі яны будуць рэдкай стравай на стале.

**Рыжыкі марынаваныя на закуску да гарэлкі.**

Маладыя свежыя рыжыкі выцерці палатном да сухасці. На вышыню пальца наліць у слоік алею, змяшаць чатыры часткі солі і адну частку перцу, пакласці ў алей слой грыбоў, добра пасыпаць соллю і перцам, зноў палажыць рыжыкі і пасыпаць, і так рабіць, пакуль слоік не запоўніцца, прыціскаючы грыбы, каб ляжалі шчыльна. Наверх пакласці гнёт (каменьчык), а як грыбы зляжацца, то дапоўніць зноў да верху, пасля чаго накрыць слоік кавалкам паперы, абвязаць і захоўваць у халодным месцы.



# Ад 1 кастрычніка можа падаражэць бензін: павышэнне складзе ад 5% да 14%

Звесткі пра падаражанне апублікаваў Onliner.by са спасылкай на інфармаваныя крыніцы.

Нагадаем, апошні раз паліва даражэла 8 чэрвеня. Сёлета цэны на паліва раслі тройчы, у тым ліку 11 красавіка і 13 сакавіка.

Цяпер 1 літр паліва «Нармаль-80» каштуе 6350 рублёў, АІ-92 — 6650 рублёў, АІ-95 — 7150 рублёў, дызельнага паліва — 7300 рублёў, дызельнага паліва Еўра-5 — 7950 рублёў.

*Еўрарадыё*

## Падзяка!

Выказваем шчырую падзяку жыхарам дома №18 па вул. Лугавой за вяртанне згубленага мабільнага тэлефона.

*Удзячная жыхарка вул. Будаўнікоў.*



# Застаўся адзін тыдзень да адкрыцця загоннага палявання

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Наступіла сапраўдная восень, надвор'е змяняецца штодня, то сонца, то дождж, аднак настрой у пэўнай катэгорыі нашых грамадзян прыпадняты, гэта паляўнічыя. Застаўся ўсяго адзін тыдзень да адкрыцця загоннага палявання на дзікіх капытных жывёл і многія чакаюць сапраўднага свята палявання. Але, паляванне дазволена і ў верасні, не толькі на вадаплаваючую дзічыну, але і на лася, кабана. Супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету ажыццяўляецца практычна штодзённы кантроль за выкананнем правіл палявання і ў першую чаргу тэхнікі бяспекі на паляванні, бо жыццё чалавека даражэй усяго на свеце. На жаль, шматлікія грамадзяне, маючы зброю і ажыццяўляючы паляванне, не заўсёды разумеюць гэта і сваімі дзеяннямі нясуць пагрозу акружаючым людзям пры правядзенні палявання.

Так, 22 верасня 2012 года каля 6 гадзін раніцы супрацоўнікамі міжрайінспекцыі ажыццяўляліся рэйдавыя мерапрыемствы па паляўнічых угоддзях Падсвільскай паляўнічай дачы. Суботняя раніца выдалася прахалоднай, але без дажджу, толькі наступіў світанак, як першы паляўнічы на качак выехаў за в. Галубічы і прама каля хат адкрыў стральбу па качках, але прамахнуўся. Інспектары неадкладна затрымалі паляўнічага, мясцовы жыхар грамадзянін Н., які вельмі прасіў не называць яго прозвішча, усвядоміў віну, ажыццяўляў паляванне на законных падставах, дакументы ўсе ў парадку, але вось адкрываць стральбу бліжэй 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта нельга. А наш гора-паляўнічы, ці ледзь не з парога хаты адкрыў стральбу, а калі б побач знаходзіліся людзі ці хатнія жывёлы, стралок пра гэта і не падумаў. Кажа, рызыка ўзяла верх над правіламі палявання. Невялікае пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 3 базавых велічынь прымусіць паляўнічага яшчэ раз вывучыць правілы палявання, бо паўторнае парушэнне цягне ануляванне дазволу на захоўванне зброі.

У гэты ж дзень каля 11 гадзін дня ў інспекцыю паступіла паведамленне пра тое, што прама на дарозе, што паміж в. Азерцы і Пялеўшчына ходзіць невядомы з аўтаматам. Рэйдавая група міжрайінспекцыі, якая выехала, затрымала жыхара г. Мінска грамадзяніна С, з паляўнічым карабінам «Сайга». Госць раёна гэтак жа праводзіў паляванне на законных падставах, але чаму для гэтага неабходна хадзіць з зараджанай стрэльбай па дарозе агульнага карыстання, побач з населеным пунктам, не зразумела, бо качкі па дарозе не плаваюць. Атрыманае пакаранне паслужыць добрым урокам для паляўнічага.

З прыведзеных усяго толькі двух прыкладаў можна зрабіць выснову, што шматлікія нашы паляўнічыя парушаюць правілы тэхнікі бяспекі на паляванні і не задумваюцца пра наступствы. Паляўнічая рызыка падчас здабычы трафея можа прывесці да трагедыі, асабліва падчас правядзення загонных паляванняў, дзе здабыча жаданага трафея ў выглядзе кабана, лася, казулі – заўсёды вялікі поспех. Таму, супрацоўнікі міжрайінспекцыі яшчэ раз звяртаюцца да нашых уладальнікаў зброі і нагадваюць пра выкананне тэхнікі бяспекі. Валоданне зброяй дае не толькі перавагі, але накладвае велізарныя абавязанні на чалавека.

Чарговы раз хацелася б звярнуцца да жыхароў раёна і нагадаць пра выкананне прыродаахоўнага заканадаўства падчас знаходжання ў лясах, вывазкі побытавага смецця, адыходаў з гародаў. Не трэба смецце вывозіць у лес, кусты, для гэтага ў кожным сельскім Савеце ёсць усталяваныя месцы, звалкі.

Пасля ўборкі гародаў, месцаў, якія знаходзяцца вакол горада, вёсак утвараюцца несанкцыяніраваныя звалкі травы, бацвіння, гнілой бульбы і буракоў. Толькі за два выхадныя дні інспектарамі міжрайінспекцыі прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці двое грамадзян і адно з прадпрыемстваў раёна за засмечванне лесу. Закон у дадзеным выпадку прадугледжвае штраф у памеры да 20 базавых велічынь на грамадзяніна і да 300 б.в. на юрыдычную асобу.

Аб усіх парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць па тэлефонах: «гарачая лінія» 8-02156-2-86-70, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Тэлетыдзень «Вольнага Глыбокага»



## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 кастрычніка

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00,23.55** Новости.
**07.05,08.05** Деловаяжизнь.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** В центре внимания.
**10.05** Клуб редакторов.
**10.45** Вокруг планеты.
**11.25** Журналистское расследование.
**12.15** **«Перстень наследника династии»**.1с.
**13.25** **«Здравствуй, мама!»**
**14.20** Док.сериал «Мастер путешествий» (США). Фильм «Дублин и окрестности «.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.25** Док.фильм «Академик Игнатий Антонов. Человек-легенда» («Белвидеоцентр»).
**16.25** Док.драма «Мистические истории» (Украина).
**17.25** Док.-биографический цикл «Моя правда» (Украина). Фильм «ВИА ГРА». Часть 2-я.
**18.30** Командировка.
**18.45, 23.45** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Соседи»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Форум.
**22.45** **«Звездные врата. Первый отряд»**
**00.10** День спорта.
**00.20** **«Перстень наследника династии»**.1-я серия.




**06.00, 08.30** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.00** Наши новости.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жить здорово!».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** «Добро пожаловать в Беларусь».
**12.05** **«Сердце Марии».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** **«Дети понедельника».**
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Белорусская Атлантида. Тайна семи веков».
**19.00** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Открытый формат».
**22.10** **«Закрытая школа»**
**23.15** Премьера. «Олег Ефремов. Голос внутри меня».
**00.20** «Вечерний Ургант».
**00.50** «Без свидетелей».
**01.20-01.50** Ночные новости.



### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 1-я серия.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.40** Битва экстрасенсов.
**11.50** **«Лесные качели»** («Беларусьфильм»).
**13.15** Школа ремонта.
**14.20** Под грифом «Известные».
**14.55** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** **«Большое зло и мелкие пакости»**. 1-я серия.
**17.50** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 1-я серия.
**18.55** Приключенческий боевик «Отряд» (Россия).
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Овертайм.
**22.00** **«Большое зло и мелкие пакости»**. 1-я серия.
**23.05** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**23.40** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.10** «Зеленый огурец. Полезная передача».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин». Лучшее.
**12.35** **«Бородин. Возвращение генерала»**. Сериал. Заключит.серия.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Центральный регион».
**14.25** «Жить будете».
**14.40** Концерт Задорнова.
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кинопонедельник»: Владимир Ильин и Алексей Вертков в фильме **«ПАЛАТА № 6»**. Россия, 2009г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Рогачев.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА: «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Тайны мира с Анной Чапман».
**00.05** «Адская кухня».

### БЕЛСАТ tv

**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:15** Зона «Свабоды»
**7:45** Навігатар
**8:00** Кулінарныя падарожжы Макловіча
**8:25** Дакументальная гадзіна: «Менск ад золку да змяркання»
**9:10** Два на два
**9:35** Euromaxx
**18:00** Назад у будучыню
**18:05** Вагон
**18:15** Еўропа сёння
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Цюхця, што ты за стварэнне?!»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:35** «Апантаныя», дак. цыкл
**19:50** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Не прапусцін!
**21:45** **«Джэйн Остэн»**
**23:45** Аб'ектыў
**0:10** Маю права
**0:30** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## АЎТОРАК, 2 кастрычніка




**06.00**, **07.15**,**08.20**Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10**Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** **«Соседи»**
**10.15** Командировка.
**10.30** Тайны следствия.
**11.00** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.15** **«Перстень наследника династии»**. 2-я сер.
**13.25«Здравствуй,мама!»**
**14.20** Док.сериал «Будь в тонусе!» (Австралия).
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25** **«Звездные врата. Первый отряд»**
**16.20** Врачебные тайны
**16.45** Док.сериал «Невероятные истории любви»
**17.30** **«Маруся. Возвращение»** Заключит. серия.
**18.25** Сфера интересов.
**18.45**, **00.00** Зона Х. Криминальн.новости.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Соседи»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.05** **«Звездные врата. Первый отряд»**
**00.25** День спорта.
**00.35** **«Перстень наследника династии»**.2 с.




**06.00**,**08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Фурцева»**
**12.05** **«Сердце Марии».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).



**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** **«Единственный мой грех»**. Заключ.серия.
**22.15** «Тема дня».
**22.25** **«Закрытая школа»**
**23.35** «Народная медицины».
**00.40** «Вечерний Ургант».
**01.10** «Без свидетелей».
**01.40-02.10** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 2-я серия.
**10.10** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**11.05** Овертайм.
**11.40** Репортер «Белорусского времечка».
**12.55** Приключенческий боевик **«Отряд»**
**14.55** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** **«Большое зло и мелкие пакости»**.2с.
**17.50** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 2-я серия.
**18.55** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск) – Локомотив. Прямая Трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. БАТЭ-Бавария.
**23.40** **«Большое зло и мелкие пакости»**. 2-я серия.
**00.35** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Обзор дня.
**01.40** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «100 процентов».
**08.55** **«ПАЛАТА№ 6»**.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин». Лучшее.
**12.35** **«Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Кино»: Джулия Робертс, Райан Рейнольдс, Уиллем Дефо, Эмили Уотсон и Кэрри-Энн Мосс в фильме **«СВЕТЛЯЧКИ В САДУ»**. США, 2008г.
**15.35** «Военная тайна».
**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки»**
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Тамара Акулова, Петерис Гаудиньш и Борис Хмельницкий в фильме **«БАЛЛАДА О ДОБЛЕСТНОМ РЫЦАРЕ АЙВЕНГО»**. СССР, 1982г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Жлобин.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА: «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Автопанорама».
**23.30** **«Доктор Тырса»**
**00.25** «Механический апельсин».




**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** «Апантаныя», дак. цыкл
**7:40** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл
**7:50** Моўнік
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Эксперт
**9:00** Аб'ектыў
**9 25** Не прапусці!
**9:40** Еўропа сёння
**18:00** «Апантаныя», дак. цыкл
**18:10** «Беларусь – адзін верш», дак. цыкл:
**18:15** На колах
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Фільм са страшнаю назваю»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** Відзьмо-невідзьмо
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Асабісты капітал
**20:50** Вагон
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40** **«Глыбокая вада»**: 4 серыя
**22:30** Форум (ток-шоу)
**23:15** Аб'ектыў
**23:40** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, рэж. Сяргей Ісакаў, 2012 г., Беларусь
**0:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы







## СЕРАДА, 3 кастрычніка




**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10** **«Соседи»**
**10.10** Сфера интересов.
**10.30** Требуется.
**10.45** Актуальное интервью.
**11.00** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.15** Эксцентрическая комедия **«Закон зайца»** (Россия). 1-я серия.
**13.25** **«Здравствуй, мама!»**
**14.20** Док.сериал «Самобытные культуры» (Чехия-Великобритания).
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.30** **«Звездные врата. Первый отряд»**
**16.25** Коробка передач.
**17.00** Завтра -это мы!
**17.30** Премьера. **«Маруся. Испытания»** (Россия-Украина). 1-я серия.
**18.30** Специальный репортаж.
**18.45**, **00.00** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.55** **«Соседи»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальное интервью.
**21.55** **«Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.05** **«Звездные врата. Первый отряд»**
**00.25** День спорта.
**00.35** Эксцентрическая комедия **«Закон зайца»** 1-я серия.




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** **«Фурцева»**
**12.05** **«Сердце Марии».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55** **«Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Чкалов»**
**22.15** «Тема дня».
**22.25** **«Закрытая школа»**
**23.35** Среда обитания. «Жизнь или кошелек».
**00.40** «Вечерний Ургант».
**01.10** «Без свидетелей».
**01.40-02.10** Ночные новости.




**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 3-я серия.
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.55** Мистическая драма **«Дикая охота короля Стаха»** («Беларусьфильм»). 1-я серия.
**12.20** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Ювентус-Шахтер.
**14.20** Ешь и худей.
**15.55** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35** **«Большое зло и мелкие пакости»**. 3-я серия.
**17.50** **«Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 3-я серия.
**18.55** Гандбол. Чемпионат мира-2013. Женщины. Отборочный раунд. Беларусь – Литва. Прямая трансляция.
**20.45** Под грифом «Известные».
**21.20** Телебарометр.
**21.25** Спортлото 5 из 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Манчестер Сити - Боруссия. Прямая трансляция.
**23.40** **«Большое зло и мелкие пакости»**. 3-я серия.
**00.35** Футбол. Лига Чемпионов УЕФА. Обзор дня.
**01.40** **«Гуманоиды в Королеве»** (Россия).




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Кино»: **«БАЛЛАДА О ДОБЛЕСТНОМ РЫЦАРЕ АЙВЕНГО»**. СССР, 1982г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин». Лучшее.
**12.35** **«Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50** **«Медики»**. Сериал.
**14.40** **«Доктор Тырса»**
**15.30** «Час суда с Павлом Астаховым».



**16.30** «24 часа».
**16.50** **«Следаки»**
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30** **«Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино»: Ирина Рахманова, Максим Аверин и Егор Дружинин в фильме **«ЛЮБОВЬ АВРОРЫ»**. Украина, 2007г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Светлогорск.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА: «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Добро пожаловаться».
**23.30** **«Доктор Тырса»**
**00.25** «Странное дело».




**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** Відзьмо-невідзьмо
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Асабісты капітал
**8:50** Вагон
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** На колах
**18:00** Асабісты капітал
**18:15** Праект «Будучыня»
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Таямніца шыфру Марабу»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** Беларусы ў Польшчы
**19:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Маю права
**20:50** Моўнік
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:45** **«Праведнікі»**, тэлесерыял: 3 серыя
**22:30** Відзьмо-невідзьмо
**22:55** Аб'ектыў
**23:25** Рэпартэр
**23:50** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы

## ЧАЦВЕР, 4 кастрычніка



**06.00**, **07.15,08.20**Доброе утро,Беларусь
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10**Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10 «Соседи»**
**10.15** Спец.репортаж.
**10.25** Требуется.
**10.45** Актуальн.интервью.
**10.55 «Знахарь-2. Охота без правил»**
**12.10 «Закон зайца»** (Россия). 2-я серия.
**13.15 «Здравствуй, мама!»**
**14.10** Культурные люди +.
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25 «Звездные врата. Первый отряд»**
**16.20** Перезагрузка.
**17.05** «Все путём!»
**17.30«Маруся.Испытания»**. 2-я серия.
**18.25** Сфера интересов.
**18.45**, **00.00** Зона Х. Криминальные новости.
**19.40** Калыханка.
**19.55 «Соседи»**
**21.00** Панорама.
**21.45** Актуальн.интервью.
**21.55 «Знахарь-2. Охота без правил»**
**23.05 «Звездные врата. Первый отряд»**
**00.25** День спорта.
**00.35 «Закон зайца»**.2 с.




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Фурцева»**
**12.05 «Сердце Марии».**
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55 «Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Смеха ради».
**18.55** «Пусть говорят»
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Чкалов»**
**22.15** «Тема дня».
**22.25«Закрытая школа»**
**23.35** Гандбол. Лига чемпионов. «Динамо-Минск» - «Загреб».
**01.00** «Без свидетелей».
**01.30-02.00** Ночн.новости.



**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Следствие ведет Да Винчи»** 4-я сер.





**10.25** Ешь и худей.
**11.00** Мистическая драма **«Дикая охота короля Стаха»** 2-я серия.
**12.25** Футбол. Лига чемпионов УЕФА. Зенит-Милан.
**14.25** Ешь и худей. Заключительный выпуск.
**14.55 «Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**15.30** Белорусское времечко.
**16.35 «Большое зло и мелкие пакости»**. 4-я серия, заключительная.
**17.50 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 4-я серия.
**18.55** Хоккей. КХЛ. Динамо (Минск)-Торпедо. Прямая трансляция.
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30 «Гуманоиды в Королеве»** (Россия).
**22.00** Футбол. Лига Европы УЕФА. Ливерпуль-Удинезе. Прямая трансляция.
**00.00** Время футбола.
**00.40 «Большое зло и мелкие пакости»**. 4-я серия,заключительная.




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Добро пожаловаться».
**08.50** «Кино»: Ирина Рахманова, Максим Аверин и Егор Дружинин в фильме **«ЛЮБОВЬ АВРОРЫ»**. Украина, 2007г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин». Лучшее.
**12.35 «Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50 «Медики»**. Сериал.
**14.40 «Доктор Тырса»**
**15.30** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Кино» Кевин Бэйкон, Колин Ферт и Элисон Ломан в фильме **«ГДЕ СКРЫВАЕТСЯ ПРАВДА»**, 2005г.
**22.20** «Поющие города». Дневник. Речица.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА: «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Автопанорама».
**23.30 «Доктор Тырса»**
**00.25** «Еще не вечер».




**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** Беларусы ў Польшчы
**7:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Маю права
**8:50** Моўнік
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** Праект «Будучыня»
**17:55** Маю права
**18:15** Euromaxx
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** «Пераемнікі»
**19:45** Моўнік
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** Рэпартэр
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40 «Дом ля поплаву»**: 4 серыя
**22:30** «CIA: таемныя войны» (C.I.A. Secret Wars), рэж. Вільям Карэль (William Karel), 2008 г., Францыя: фільм 3, «Вайна спараджае вайну (1990–2001)» (One War Begets Another)
**23:20** Аб'ектыў
**23:45** Два на два
**0:15** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы





## ПЯТНІЦА, 5 кастрычніка



**06.00**, **07.15**, **08.20** Доброе утро, Беларусь!
**07.00**, **08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 02.40** Новости.
**07.05**, **08.05** Деловая жизнь.
**07.10**, **08.10** Зона Х.
**09.10 «Соседи»**
**10.10** Сфера интересов.
**10.25** Требуется.
**10.45** Актуальное интервью.
**10.55 «Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**12.10** Драма»Исчезнувшая империя» (Россия).
**14.25** Завтра -это мы!
**15.15**, **19.20** Новости региона.
**15.25 «Звездные врата. Первый отряд»**
**16.15** Католические святыни Беларуси.
**16.45** «Здоровье». Токшоу.
**17.25 «Маруся. Испытания»** (Россия-Украина). 3-я серия.
**18.25**, **02.10** Зона Х. Итоги недели.
**19.40** Калыханка.
**19.55** Док.цикл «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Обмануть звезду».
**21.00** Панорама.
**21.45** Телефильм АТН»Уплывшие лодки « цикла»Судьба гигантов».
**22.10 «Знахарь-2. Охота без правил»** (Россия).
**23.25** Докудрама «Мистические истории» (Украина).
**00.25** Премьера. Экшн-триллер **«Санктум»**
**02.55** День спорта.




**06.00**, **08.30** Наши новости.
**09.00** Наши новости (с субтитрами).
**06.05** «Наше утро».
**09.05** «Жить здорово!».
**10.20** «Понять. Простить».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Фурцева»**
**12.05** Премьера. «Все во имя любви».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Премьера сезона «Время обедать!».
**13.50** «Модный приговор».
**14.55 «Обручальное кольцо».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15** «Контрольная закупка».
**16.55** «Давай поженимся!».
**18.00** Наши новости (с субтитрами).
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Жди меня». Беларусь.
**18.55** «Поле чудес».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** «Сегодня вечером»
**22.40** «Что? Где? Когда?» в Беларуси.
**23.55** Морган Фриман в фильме **«Ливень».**
**01.40-02.10**Ночн. новости.





**07.00** Утро.
**09.00** Телебарометр.
**09.05 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 5-я серия.
**10.10** Время футбола.
**11.00** Ешь и худей Заключительный выпуск.
**11.30** Школа ремонта.
**12.35** Футбол. Лига Европы. Ньюкасл-Бордо.
**14.30** Детектив «Безумный ноябрь 2» (Украина).
**16.25** Док.цикл «Высшая мера». Фильм «Цена секунды».
**17.15** Белорусская кухня.
**17.50 «Следствие ведет Да Винчи»** (Канада). 5-я серия.
**18.55** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**19.20** Арена.
**19.50** Фактор силы.
**20.25** Репортер «Белорусского времечка».
**21.20** Телебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Битва экстрасенсов.
**22.40** Комедийная мелодрама **«Короткий монтаж»**




**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.30** «Автопанорама».
**08.50** «Кино» Кевин Бэйкон, Колин Ферт и Элисон Ломан в фильме **«ГДЕ СКРЫВАЕТСЯ ПРАВДА»**. Канада-Великобритания, 2005г.
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Семейные драмы».
**11.35** «Званый ужин». Лучшее.
**12.35 «Слово женщине»**
**13.30** «24 часа».
**13.50 «Медики»**. Сериал. Заключительная серия.
**14.40 «Доктор Тырса»**
**15.30** «Час суда с Павлом Астаховым».
**16.30** «24 часа».
**16.50 «Следаки»**
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Слово женщине»**
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.30** «Комедия по пятницам»: **«ПОЧЕМУ МУЖЧИНЫ НИКОГДА НЕ СЛУШАЮТ, А ЖЕНЩИНЫ НЕ УМЕЮТ ПАРКОВАТЬСЯ»**. Германия, 2007г.
**22.20** «Поющие города». Дневник.Калинковичи.
**22.30** «24 часа».
**22.55** ПРЕМЬЕРА: «Поговорим».
**23.05** «СТВ-спорт».
**23.10** «Секретные территории».
**00.00** «Победи ПокерСтарз ПРО».
**00.50** «Специальный проект»: «Женщины против мужчин».




**7:00** Студыя «Белсат»
**7:30** «Пераемнікі»
**7:45** Моўнік
**8:00** Студыя «Белсат»
**8:30** Рэпартэр
**9:00** Аб'ектыў
**9:25** Студыя «Белсат»
**9:40** Euromaxx
**17:50** Відзьмо-невідзьмо
**18:15** На колах
**18:45** Калыханка для самых маленькіх: «Матыльда»
**19:00** Студыя «Белсат»
**19:30** ПраСвет
**20:00** Студыя «Белсат»
**20:30** «Людзі з граніту», рэпартаж, 2012 г., Літва
**20:45** Гісторыя пад знакам Пагоні
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Студыя «Белсат»
**21:40 «Аер»**, 2009 г., Польшча
**23:10** Аб'ектыў
**23:35** Эксперт
**0:05** Вагон

# Моцны парламент мог бы садзейнічаць мадэрнізацыі Беларусі

***Тэма палітычнай мадэрнізацыі закранался беларускімі экспертамі неаднаразова, у тым ліку і ў межах ініцыятывы ЕС «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю». Аднак застаецца адкрытым пытанне аб форме дзяржаўнага праўлення. Што дазволіць рэфармаваць краіну больш эфектыўна: моцная прэзідэнцкая ўлада або парламенцкая рэспубліка?***

**Мікіта Бяляеў,**
*аналітык «Ліберальнага клуба» — для БелаПАН.*

Меркаванні экспертаў раздзяліліся. Адны сцвярджаюць, што пры мадэрнізацыі Беларусі без моцнай рукі не абысціся, тлумачачы гэта неабходнасцю хуткіх рэформ. Іншыя выступаюць за стварэнне парламенцкай рэспублікі, запэўніваючы, што такое дзяржаўнае ўстройства дазволіць пазбегнуць адкату да аўтарытарызму.

Уладзімір Роўда, кіраўнік Аналітычнага беларускага цэнтра, упэўнены: «Трэба пераходзіць да парламенцкай формы кіравання, каб не было больш нават ніякіх намёкаў на дыктатуру». Прыхільнікі іншага пункту гледжання пярэчаць: друзлая парламенцкая ўлада патопіць рэформы ў дыскусіях, краіна не паспее ўскочыць у адчыненае ненадоўга акно магчымасцяў.

### Рызыкі «ліберальнай дыктатуры»

Галоўнай высновай прыхільнікаў «ліберальнай дыктатуры» з'яўляецца тое, што найбольш хутка і эфектыўна рэформы можна правесці, канцэнтруючы ўладу ў адных руках. Пры гэтым значная лібералізацыя тычыцца толькі эканомікі, у палітыцы з ёю спяшацца, маўляў, не варта.

Запуск дэмакратычных працэдур па поўнай праграме можа толькі перашкодзіць мадэрнізацыі, а моцная ўлада дазваляе стрымаць незадаволенасць грамадства, якое заўсёды ўзнікае пры ломцы старога ўкладу, падкрэсліваюць прыхільнікі гэтага падыходу.

У якасці пацвярджэння эфектыўнасці такога шляху прыводзяцца прыклады Кітая і Сінгапура, але замоўчваюцца іншыя, не такія паспяховыя.

Выснова пра тое, што пры наяўнасці моцнай улады лягчэй правесці рэформы, дастаткова спрэчная. Па-першае, вопыт трансфармацыі ўсходнееўрапейскіх краін паказвае, што рэформы можна правесці хутка, эфектыўна і пры парламенцкай форме праўлення, шырокім развіцці дэмакратыі.

Па-другое, вопыт паказвае, што прэзідэнты, якія сканцэнтравалі ў сваіх руках велізарныя паўнамоцтвы, маюць магутную спакусу не праводзіць рэформы, а захоўваць сваю ўладу. Тады часта рэформы падмяняюцца папулісцкімі рашэннямі, якія адмоўна адбіваюцца на выніках мадэрнізацыі.

Такіх прыкладаў мноства: пачынаючы з наяўнага становішча спраў у Беларусі і заканчваючы неадназначным грузінскім вопытам. Нягледзячы на тое, што грузінскія рэформы былі добра прадуманы, структураваны і праводзіліся моцнай прэзідэнцкай уладай, іх вынікі аказаліся не такімі паспяховымі, як чакалася.

Для ўзмацнення падтрымкі свайго курсу насельніцтвам грузінскі ўрад пайшоў на папулісцкія меры, якія не адпавядалі прапанаваным рэформам: неабгрунтаванае павышэнне зарплат і пенсій, выплату аднаразовых дапамог (ваўчараў) і павелічэнне дзяржаўных расходаў. У выніку, нягледзячы на рэформы, сітуацыя ў эканоміцы краіны далёкая ад ідэальнай.

Так, найбольшай праблемай з'яўляецца знешні гандаль, 75% якога прыпадае на імпарт. У выніку адмоўны гандлёвы баланс у 2011 годзе дасягнуў 4,865 млрд. долараў. З 10 найбуйнейшых гандлёвых партнёраў толькі з Арменіяй Грузія гандлюе ў плюс. Дэфіцыт бюджэту ў апошнія гады захоўваецца на ўзроўні 8-9%.

Пры тым што ў рэйтынгу эканамічнай свабоды 2012 года ад Heritage Foundation у Грузіі даволі высокая 34-я пазіцыя (хаця і тут назіраецца рэгрэс), захоўваюцца праблемы з шэрай эканомікай.

Безумоўна, негатыўную ролю адыгралі дрэнныя адносіны з Расіяй, што прывяло да закрыцця рынку гэтай краіны для грузінскіх тавараў і ўзняцця цэн на энерганосьбіты, а потым і да ваеннага ўварвання. Але, ва ўсякім выпадку, моцная ўлада Міхаіла Саакашвілі не надта дапамагла нейтралізацыі расійскага фактару.

Апрача таго, выкарыстанне матрыцы «ліберальнай дыктатуры» ў Беларусі можа быць звязана з шэрагам спецыфічных праблем для мадэрнізацыі. Так, пры адсутнасці дэмакратычных інстытутаў узмацняецца небяспека, што рэформы будуць тармазіцца на месцах прамысловым лобі і чыноўнікамі. У схільнасці да такога тармажэння можна пераканацца, аналізуючы вынікі прыватызацыі за мінулы год, а таксама выкананне некаторых нарматыўных актаў.

### Нацыянальны сход можа стаць гарантам рэформ, калі...

Выбар парламенцкай формы праўлення ў Беларусі ўскладняецца некалькімі фактарамі. Так, грамадства не ўспрымае парламент як інстытут, здольны праводзіць самастойную палітыку, а дэпутаты не ўспрымаюцца ўсур'ёз. Палітычныя партыі невядомыя большасці насельніцтва і малакалькасныя, рэальнай палітычнай сілай яны не валодаюць.

Тым не менш, змяніць такое становішча рэчаў магчыма толькі пры пераходзе да парламенцкай формы праўлення.

Гэта павысіць цікавасць палітычных партый да ўдзелу ў выбарах, а канкурэнцыя за выбаршчыка прымусіць павышаць якасны ўзровень палітычнай гульні. Да таго ж парламенцкая форма праўлення дазваляе больш шырока прадстаўляць інтарэсы насельніцтва і ўцягваць яго ў палітыку. Далей, такая сістэма забяспечвае развіццё грамадзянскай супольнасці, што жыццёва неабходна Беларусі.

У кантэксце ж мадэрнізацыі важна, што парламенцкая форма праўлення ў беларускіх умовах дазволіць мінімізаваць рызыку замарожвання рэформ.

**Па-першае,** яна садзейнічае стварэнню шматпартыйных правячых кааліцый. Гэта засцеражэ рэформы ад негатыўнага ўздзеяння груп інтарэсаў і лабістаў. Моцны парламент акумулюе разнастайныя інтарэсы і патрэбы грамадства, што дазваляе пазбегнуць папулісцкіх мер, якія часта шкодзяць рэформам.

**Па-другое,** парламенцкая форма праўлення дазваляе стварыць развіты інстытут кантролю за ажыццяўленнем рэформ, забяспечваючы функцыянаванне сістэмы пашыранай падсправаздачнасці.

На думку Аляксея Пікуліка, акадэмічнага дырэктара Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў, «менавіта пашыраная падсправаздачнасць прымушае рэфарматараў шукаць кампрамісы і эксперыментаваць з новымі правіламі гульні ў эканоміцы, а таксама ахоўвае працэс стварэння новых правілаў ад канцэнтраванага ўплыву вузкіх груп інтарэсаў».

**Па-трэцяе,** пры парламенцкай форме праўлення няўдалага кіраўніка ўрада можна без асаблівых праблем адхіліць шляхам вотуму недаверу, а вось прэзідэнта з магутнымі паўнамоцтвамі так проста не «прыбярэш». Гэты момант вельмі важны, у выпадку, калі рэформы будуць тармазіцца зверху.

Пра магчымасці хутка і комплексна правесці радыкальныя эканамічныя рэформы пераканаўча гаворыць, у прыватнасці, вопыт парламенцкай рэспублікі Эстоніі. Беларусь у гэтым плане магла б многае пераняць, калі ўнутрыпалітычная сітуацыя з-за тых ці іншых прычын істотна зменіцца.

# Эстонская кампанія прапануе пабудаваць у Беларусі прадпрыемства па выпуску прыбораў для кантролю наркотыкаў

**Марына Носава,**
БелаПАН

**Эстонская кампанія NarTest прапануе стварыць на тэрыторыі Беларусі сумеснае расійска-беларуска-эстонскае прадпрыемства па выпуску прыбораў для кантролю наркатычных, допінгавых, выбуховых рэчываў на аснове лазерных тэхналогій.**

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях (ДКНТ), пра гэта паведаміў 20 верасня на нарадзе па пытаннях супрацоўніцтва з эстонскай кампаніяй NarTest старшыня ДКНТ Ігар Войтаў. Паводле яго слоў, пры станоўчым разглядзе гэтага пытання спецыялізаваныя ведамствы маглі б больш шырока прымяняць сродкі лазернай дыягностыкі ў сваёй працы. Гэты праект атрымаў падтрымку з боку дзяржаўнага сакратара Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Рыгора Рапоты.

У сваю чаргу, дырэктар NarTest Эндэл Сіф паведаміў, што кампанія займаецца распрацоўкай, вытворчасцю і продажам электронных прылад выяўлення наркотыкаў ва ўсім свеце. Выпрабаванні паказалі, што прыбор здольны ідэнтыфікаваць больш чым 20 наркатычных рэчываў на працягу 40 секунд. «Уся працэдура складаецца з чатырох дзеянняў і дастаткова простая ў эксплуатацыі. На навучанне рабоце аднаго амерыканскага паліцэйскага патрабуецца не больш чым 2 гадзіны», — сказаў Эндэл Сіф. Ён таксама адзначыў, што NarTest імкнецца дапамагчы праваахоўным органам на ўсіх узроўнях у іх намаганнях па спыненні выкарыстання і продажу наркотыкаў.

У нарадзе па пытаннях супрацоўніцтва з эстонскай кампаніяй NarTest бяруць удзел прадстаўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі, Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства абароны, Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, ДНУ «Інстытут фізікі імя Б.І.Сцяпанава» НАН Беларусі і іншых структур.



